# ЦАРКОЎНЫ



БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

# ПАСЛАНЕЦ

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 23/29 | ВЯЛІКДЗЕНЬ 2001 | 1/51/61


## ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



**ХРЫСТОС ВАСКРОС!**

Ізь Сьвятам над Сьвятамі - слаўным Хрыстовым Устаньнем з Умерлых вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы, што да свае роднае Царквы імкняцеся, а яшчэ доступу да Яе ня маеце!

Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры!

Вітаючы Вас із Найвялікшым Сьвятам Праваслаўнае Веры, я разам упрашаю ў нашага Пераможнага над Сьмерцяй Збаўца, каб у жыцьці кожнага з Вас былі адпаведныя нятолькі матарыяльныя, але перадусім духовыя абставіны радасна сустрэць й годна ўшанаваць гэтую ўрачыстую пару.



Я ведаю, што, нажаль, калі ня ў большасьці, дык у шмат каго з Вас жыцьцёвыя ўмовы ня прыяюць, каб дазнаваць радасьць, або адчуваць запраўдную людзкую годнасьць.

Але й у тых, у каго ў жыцьці сонечна, як і ў тых, у каго ў душы непагодна, у кожнага з нас у сэрцы квяліць трывога за нашую любую Бацькаўшчыну - Беларусь ды наш Беларускі Народ, што з чужынскае забароны маліцца на роднай мове ў сваіх сьвятынях ды перадаваць на гэтай мове новым пакаленьням ягоную гістарычную й культурную спадчыну, засуджаны на сьмерць.

Як-жа бо адчуць годнасьць таму, хто кожны дзень у родным Краі дазнае асабовыя й нацыянальныя зьнявагі, як знайсьці радасьць таму, хто разумее, што наш Народ, прададзены юдамі й прыбіты ворагамі на крыж галечы й зьдзеку, канае?

Мае Любыя! У гэткія горкія гадзіны згадайма, што, калі Хрыстос быў прададзены Юдам і цярпеў мукі, ды сканаў прыбіты да крыжа, ягоныя вучні таксама перажывалі нятолькі роспач, але й гублялі надзею, ды хісталіся ў веры.

Але наш Збавец, што сказаў "неба й зямля прападуць, а Мае словы не прападуць" (Мц. 24:35), Ягонае слова стрымаў ды, памёршы дзеля збаўленьня нашых душаў, устаў з умерлых.

Пасьля-ж, узыйшоўшы на неба, каб збыліся Ягоныя словы "збудую Маю Царкву й пеклавыя вароты Яе ня перамогуць" (Мц. 16:18) спаслаў на Ягоных вучняў Сьвятога Духа, што натхніў іх мудрасьцяй і навагай збудаваць Божую Царкву й пашырыць Яе па ўсёй зямлі.

Гэтае натхненьне выявілася нятолькі ў мудрасьці й навазе Хрыстовых вучняў, але й у дары навучаць на розных мовах, каб кожны народ змог стварыць паводле ягоных, Богам створаных асаблівасьцяў, сваю частку адзінае Царквы.

Дар Сьвятога Духа Апосталам настаўляць народы на іхных, Богам ім дадзеных мовах, на будову адпаведных да іхных асаблівасьцяў частак адзінае Божае Царквы, ахапіў і наш Беларускі Народ.

З гэтага бо Дару й паводле Наказу нашага Збаўца Ісуса Хрыста "ідзеце й навучайце ўсе народы" (Мц. 28:19) збудаваная родная нашаму Народу Беларуская Аўтакефальная Праваслаўна Царква.

Пеклавыя вароты й іхныя слугі няспынна прабуюць Яе раскалоць, забараніць ды зьнішчыць, але іхныя намаганьні дарэмныя, бо Збаўцовыя словы не прападуць і Яна ажыве на Роднай Зямлі служыць павадніцай верным да збаўленьня на небе й годнага жыцьця на зямлі.

Узмацаваны Ёю зыйдзе з крыжа й ажыве наш Беларускі Народ ды наладзіць ягонае жыцьцё паводле Збаўцовых Наказаў на Божую славу ды Ягоным людзям на дабро і пажытак.

Дык, Мае Любыя, не распачаймa й не зьнявермайся, а ўмацаваўшыся выявам Божае Ўсемагутнасьці - Хрыстовым Устаньнем з Умерлых, ідзема апостальскім сьледам адбудоўваць нашую родную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву і радасьць перамогі над зрыхтаванай нашаму Народу сьмерцяй будзе з намі, бо Хрыстос

**ЗАПРАЎДЫ ВАСКРОС!**

+ *Мітрапаліт Ізяслаў*
Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

## БОЖЫЯ ЗАГАДЫ Ў ГРАМАДЗКІХ І МІЖНАРОДНЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯХ

У Біблії ёсьць мамэнт, калі яна з аповяду праэь сямейныя падзеі ізраільскіх праайцоў ператвараецца ў гістарычны летапіс і патрыятычнае настаўленьне для ізраільскага народу.

Гэты мамэнт - ачоленае ня родавым галавом, а Богам натхнёным рэлігійным і нацыянальным павадыром, Майсеям, вызваленьне зь ягіпцкае няволі.

Самое вызваленьне, аднак, ня было яшчэ нараджэньнем ізраільскага народу, а толькі зьяўленьнем магчымасьці на гэткі ягоны вынік.

Гэта відно з таго, праз 40 год пасьля вызваленьня ізраільцы блукалі па пустыні не таму, што канцавая мэта іхнае дарогі была далёкая, а таму, што яны яе ня ведалі й духова ня былі гатовыя яе асягнуць.

Наадварот, яны хісталіся ў веры й надзеі на Бога, ды вярталіся да паклонства перад баганамі, распусты, а, нават, і жалю па жыцьці ў няволі.

І, каб ня Божае, узноў-жа праз Майсея зьдзеянае ўмяшаньне, ізраільскі натоўп разгубіўся-б і прапаў у пустыні, як раней і пазьней, ад стварэньня чалавецтва, прападала шмат плямёнаў і народаў.

Богу бо, у Ягонай Наймудрасьці, трэба было зрабіць з гэтага натоўпу народ, годны служыць прыкладам выяўленьня Знайвышняе Волі ўсім людзям ды прыкладам ужыцьцяўленьня гэтае Волі для ўсіх народаў на зямлі.

З гэтай мэтай і былі дадзеныя Майсею напісаныя на каменных дошках 10 Божых Загадаў.

Вырост разбэшчанага натоўпу на выбраны Богам народ ня збыўся, аднак, за адзін дзень пасьля зьяўленьня пісаных Божых Загадаў - на гэта, якраз, спатрэбілася 40 год.

Працягам бо гэных 40 год адбывалася нятолькі маральная перабудова паводле Божых Загадаў кожнага паасобнага ізраільца, але й стварэньне змацаванага верай у аднаго Бога й паслухмянага Ягоным Загадам народу ды ягоных рэлігійных і грамадзкіх уладных установаў.

Толькі калі гэты працэс завяршыўся, ізраільцам была адчыненая дарога ў Абяцаную Зямлю.

Да нас, хрысьціянаў, 10 Божых Загадаў дайшлі як аснова Хрыстовае Навукі й, як вызначнікі маральных якасьцяў, забавязваюць кожнага з нас кіравацца імі ў жыцьці.

Гэта й кажацца ў традыцыйнай навуцы веры, зь якою дзе-каму йз нас шчасьціць пазнаёміцца ўмалку, а, сёньняшняй парою, найчасьцей даводзіцца ўведваць пазьней у жыцьці.

Нажаль, ні ў вадным падручніку веры, ані ў словах ейных настаўнікаў не ўспамінаюцца маральныя вымогі, што Божыя Загады ставяць таксама й перад грамадзкім жыцьцём ды дзяржаўнай палітыкай кожнага народу.

Гэта й ня дзіва, бо гэтыя падручнікі складаюць ды вучаць нас зь іх прадстаўнікі цэркваў, што ў супалцы, або з залежнасьці ад дзяржаўных уладаў, падтрымоўваюць супярэчны Божым Загадам імпэрыялізм із усімі спадарожнымі зь ім бедамі.

Нават у напісанай пабеларуску й нядаўна выдадзенай кніжцы а. Канстанціна Бандарука "Адзінае на патрэбу...", дзе выкладзеныя асновы Праваслаўнае Веры, супраць спадзяваньня, значаньне Божых Загадаў у грамамадзкіх і міжнародных дачыненьнях ледзь успомненае.

Замоўчваньне не зачыняе, аднак, пытаньня й з гэтае прычыны варта ім гэтта зайняцца.

Дык якія вымогі, апрача прыватнага жыцьця кожнага чалавека, ставяць Божыя Загады яшчэ й перад грамадзкімі ды міжнароднымі дачыненьнямі?

Пачнем разважаць на закранутую тэму ад першага з гэтых Загадаў:

1. *"Я Твой Гаспадар Бог. Каб ня было табе іншых багоў апрача Мяне".*

У традыцыйнай навуцы веры ўспамінаюцца й тлумачацца розныя парушэньні гэтага Загаду адзінкамі, як непамяркоўнасьць асабовых амбіцыяў, пагоня за багацьцем, жада прыемнасьцяў і раскошы, ды няўвага да духовых вартасьцяў і інш.

Нельга, пэўна-ж, пярэчыць, што людзкая слабасьць ў вабліччы матэрыяльных спакусаў, ды нават пакланеньне перад імі спрычыняюць шмат блага, а нават і цярпеньняў на сьвеце.

Найгоршыя няшчасьці й беды, якія дазнала чалавецтва, вынікалі, аднак, ня непасрэдна з прыватных паймкненьняў да выгады й дастатку, а зь перайма гэтых паймкненьняў грамадзтвам ды ператварэньня ў пачуцьцё права на іхнае асягненьне, бяз увагі на кошт, ды, у канцы, у нічым не абмежаную веру у клясавую, расавую, ці нацыянальную вышэйшасьць.

Гэтае бязумоўнае й бязьмежнае падпарадкаваньне ўсіх і ўсяго, быццам беспамылковым, грамадзка-палітычным тэорыям, як камунізм, фашызм і пад., ці ідэям " выбраных" дзяржаваў ды нацыяў, і ёсьць, якраз, прыкладам тварэньня іншых ад аднаго запраўднага Бога багоў із усімі выходнымі з гэтага грэху бедамі, як войны й захопніцтвы, народагубствы, тэрор і перасьледаваньні, ды няволя й галеча.

Нажаль, хоць наш народ і церпіць ад службы гэтым хвальшывым багам нашых суседзяў, у нас таксама часам чуюцца выказваньні як "мой бог - мой народ", "мой Бог - Купала", "нашая вера - мастацтва" й пад.

Церпячы ад пярэчных Божай Волі дзеяў нашых панявольнікаў, мы не павінныя іхным сьледам ствараць собскіх хвальшывых багоў, а шукаць зразуменьня Божых Загадаў ды, выконваючы іх, змагацца супраць іхных парушэньняў і парушальнікаў.

2. *Не зрабі сабе багана й ніякага падабенства да чаго-колечы, што ўверху на небе, ці ўдалоў на зямлі, або ў водах пад зямлёю, ды не пакланіся й не паслугоўвай ім.*

Узноў-жа, звычайна ў навуцы веры ганіцца няўстрыманасьць ад сьвецкіх спакусаў паасобных людзей, як напр. іхная прывязанасьць да матарыяльных здабыткаў, замілаваньне да разрывак, сьляпое пасьлядоўніцтва за модамі й г.д.

Затое абмінаецца палітычны бок другога Божага Загаду, або ягоную накіраванасьць супраць "культаў асобы", што на працягу гісторыі чалавецтва спрычынілі яму гэтулькі гора.

Кожны праваслаўны хрысьціянін павінен разумець, што сьмяротныя людзі, якія самыя сябе, ці якіх іхныя падлізьнікі аб'яўляюць "павадырамі",

"айцамі", або "бацькамі народаў", гідкія Богу й, ня гледзячы на часовую моц іхнае ўлады, будуць зьвернутыя.

Дык іхнае хвалаваньне й пакланеньне ім нічога іншага як гідкае Богу паганства, ад якога хрысьціяне павінны ўсьцерагацца.

*3. Ня кліч Імя Твайго Гаспадара Бога надарма.*

Выясьненьне гэтага Божага Загаду таксама звычайна абмяжоўваецца да асьцярогі ад частага ў прыватным людзкім жыцьці бажэньня, нараканьня на Бога ды абразаў Яму й пад.

Не ўспамінаецца, аднак, што, супраць Божае Волі, Ягонае Імя выкарыстоўвалася й выкарыстоўваецца на аздобу й выпраўдваньне злачынстваў і гвалтаў над адзінкамі й цэлымі народамі.

Грашылі й грэшаць супраць гэтага Божага Загаду нятолькі сьвецкія ўлады, але й цэлыя цэрквы, што называюць сябе хрысьціянскімі, ды нават праваслаўнымі.

Найлепшы прыклад ламаньня гэтага Божага Загаду - намаганьні Маскоўскага Патрыярхату РПЦ эмануць людзей на павер, што зьліцьцё славянскіх народаў у адзін расейскі - Божая Справа.

Гэты падман пярэчыць Божаму Пляну стварэньня сьвету й таму павінен быць адкінуты запраўднымі хрысьціянамі.

*4. Памятай сыботні дзень, каб яго сьвяткаваць: шэсьць дзён працуй і даканай за іх усе твае справы. У сёмы-ж дзень - сыбота, Твайму Гаспадару Богу.*

На першы пагляд чацьверты Божы Загад кажа парабіць усе нашыя пражытныя справы за шэсьць дзён, а сёмы дзень прысьвяціць на падзяку Богу й упрашаньне Яго, а таксама на пабожныя думкі й добрыя ўчынкі.

Абсяг гэтага Загаду абыймае, аднак, і грамадзкае ды нацыянальнае жыцьцё, бо нагадвае, што ў гуртовых людзкіх справах трэба кіравацца пабожнымі наказамі ды здаваць за іх падрахунак сумленьня перад Богам.

*5. Чэсьць твайго бацька й тваю маці, дык добра табе будзе ды шмат год жыцьмеш на зямлі.*

Пяты Божы Загад, бяз сумневу, патрабуе, каб мы паважалі нашых родных бацькоў, слухалі іх ды памагалі ім.

Гэтае патрабаваньне ўлучае й пашану да нашых настаўнікаў, духовых бацькоў і начальнікаў.

Ня тлумачыцца, аднак, што шанаваць нашых бацькоў, грэбуючы іхнай духовай спадчынай і адракаючыся ад яе, немагчыма.

Таму кожны, хто нарадзіўся беларусам, ці беларус із паходжаньня, а саромяецца сваіх каранёў ды перакідаецца ў іншую нацыянальнасьць, ідзе супраць Божага Пляну стварэньня сьвету й Ягоных Загадаў.

Зразумелая рэч, што патануўшы ў чужым моры, ён не пакіне па сабе ніякага сьледу на зямлі.

Што-ж да настаўнікаў, "духовых бацькоў" ды начальнікаў, якія на пярэхрысцтва навучаюць, дык празь іх гутарка ў наступным Божым Загадзе.

*6. Не забій.*

Здавалася-б, што гэты Божы Загад не патрабуе тлумачэньняў, бо кожнаму зразумела, што забіраць людзкое жыцьцё нельга.

Да гэтага, звычайна, яшчэ дадаецца, што забіцьцём чалавека можа быць і спакушэньне яго на грэх, або, інакш, на загубу ягонае душы.

Сэнс шостага Божага Загаду выходзіць, аднак, за рамкі адзінкавых паводзінаў ды абыймае грамадзкія й міжнародныя дачыненьні.

Ня трэба нават успамінаць, што гэты Загад забараняе выкліканыя клясавай, расавай, ці нацыянальнай ненавісьцяй масавыя забійствы, або фізычнае народагубства, на якія так багатая нядаўняя гісторыя, здавалася-б, цывілізаванага чалавецтва.

Але, як і загуба аднае душы спакушэньнем яе на благія ўчынкі ёсьць грэхам супраць шостага Божага Загаду, гэтак і дэнацыяналізацыя й асыміляцыя народаў, або этнацыд - злачынства супраць гэтага-ж Загаду.

Нажаль, гэты злачынны намер выконваюць над нашым народам нятолькі нялюдзкія захопнікі сьвецкае ўлады, але й эманныя пастыры адступных ад Божых Загадаў цэркваў.

Нам, праваслаўным беларусам, трэба, аднак, называць іхную дзейнасьць запраўдным імём ды асьцерагаць ад яе нашых суродзічаў.

*7. Ня зьляжся.*

Кожнаму зразумела, што сёмы Божы Загад забараняе плодзьную, ці, як цяпер модна казаць, сэксуальную распусту, ды не адно ў дзеях, але й у думках.

Гэтая забарона, пэўна-ж, датычыць нятолькі асабовага, ці сямейнага людзкога жыцьця, але й грамадзкага ды нацыянальнага, бо патураньне распусьце вядзе да раскладу маральнае структуры нацыі й ейнага заняпаду.

Апрача таго ёсьць і іншая распуста, а гэта, нярaз называная прастытуцыяй, бяспрынцыповасьць і прадажнасьць у гаспадарчых і палітычных справах, зь якіх завязваюцца супалкі зь нягоднымі мэтамі, што плодзяць шкоды ў грамадзтве й дзяржаве.

*8. Ня ўкрадзь.*

Крадзеж - учынак, які, здавалася-б, не патрабуе тлумачэньня, бо, калі йдзе праз матарыяльнае дабро, дык кожнаму зразумела, што браць тайком, або сілаю, ці рабункам чужое - забароненае 8-м Божым Загадам злачынства.

Гэтае, разуменьне, нажаль, не распаўсюджваецца ў выкладанай нам навуцы веры на займы чужых земляў і заваёвы іншых народаў імпэрыялістычнымі дзяржавамі, ад якіх церпіць наш народ.

Крадзеж таксама й пазбаўленьне народу ягонае гісторыі й нацыянальнае сьведамасьці, што, супраць Божае Волі, практыкуецца над намі.

*9. Не давай хвальшывага сьветчаньня на твайго прыяцеля.*

Гэты Божы Загад датычыць нятолькі сьветчаньняў у судох, але й паклёпаў і ачарненьняў, як у дачыненьнях паміж паасобнымі людзьмі, гэтак і ў грамадзкіх, нацыянальных і міжнародных справах.

У вадным і другім выпадку хвальшывыя сьветчаньні робяць непапраўную шкоду.

У грамадзкім. нацыянальным, ці міжнародным жыцьці яны абяртаюцца ў стэрэатыпы, у якія, як у пракруставае ложа ўціскаюцца ўявы праз паасобныя клясы, веравызнаньні, ці народы, на якія прычэплі-

*(Працяг на 4-й бач.)*

## 25-га САКАВІКА Ў БРУКЛІНЕ

У нядзелю, 25-га сакавіка г.г. Парахвія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адзначыла 83-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сьв. Літургію й прынагодны малебен за зьняволеных адправілі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з айцамі архімандрытам Аляксеям і дыяканам Ігарам.

Пасьля адправаў Парахвіяльнае Сястрыцтва прыгатавала ў парахвіяльнай залі багаты пачастунак, падчас якога праз значаньне сьвята сказаў слова сп. Ігар Шаламіцкі, а сп-ня Ліда Кано закранула сэрцы прысутных ейным сьпевам.

Сьвяткаваньне было закончанае прапяяньнем нацыянальнага гімну.

Нажаль, гэтым разам на сьвяткаваньні было менш, як звычайна, прысутных, бо нямала парахвіянаў паехала аўтобусам у Вашынгтон, на ладжаную там Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем дэманстрацыю супраць лукашэнкаўскага рэжыму.

З увагі на гэтую дэманстрацыю Нью Ёркскі Адзьдзел БАЗА ладзіў сьвяткаваньне 25-га Сакавіка раней, у нядзелю 18-га сакавіка г.г.

Шкада толькі, што сьвяткаваньне адбылося ня разам і не ў сваёй, дастатковай на гэтую патрэбу, парахвіяльнай залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, а ў не найбольш люксусовай украінскай залі на Мангатане, за якую давялося плаціць немалыя грошы.

Таксама сумна, што Ўправа Нью Ёркскага Адзьдзелу БАЗА, дагаджаючы непабожнай меншасьці сяброў арганізацыі, адраклася ад ранейшае традыцыі, калі паведамленьні аб прынагодных адправах улучаліся ў запросіны ды на гэтых адправах прысутнічалі варты йз нацыянальнымі сьцягамі.

Нажаль, гэта не адзіны выпадак няўвагі нашых незалежнікаў да свайго - штогод у ліпені падчас тыдня паняволеных народаў, замест памаліцца за свой народ у сваёй сьвятыні, яны бягуць із сьцягамі на паказ у чужую.

## БОЖЫЯ ЗАГАДЫ ...

*(Працяг з 3-е бач.)*

ваюцца навескі сымпатыі, ці ненавісьці.

Ад гэтае стэрэатыпнае ненавісьці й грэбаваньня цяжка цярпеў і церпіць наш народ, як з боку ягоных суседзяў, гэтак і ад собскіх здраднікаў.

*10. Не пажадай жонкі дабразычлівага табе, не пажадай дому твайго бліжняга, ... ані яшчэ чаго, што належыць твайму бліжняму.*

Апошні Божы Загад ганіць зайздрасьць, або жаду займець чужое дабро, зь якое родзяцца забароненыя іншымі загадамі благія ўчынкі.

У міжнародных дачыненьнях гэтая зайздрасьць абяртаецца ў імпэрыялізм, што вядзе да войнаў, бясконцых людзкіх ахвяраў і цярпеньняў, ад якіх таксама ўжо доўга церпіць наш народ.

Як відно йз вышэй сказанага, Божыя Загады ўстанаўляюць нятолькі ўмовы годнага жыцьця кожнага чалавека, але справядлівыя асновы грамадзкіх і міжнародных дачыненьняў.

Трэба толькі змагацца за іхнае ўжыцьцяўленьне.

*Я. Сурынец*

## УКРАІНСКІЯ ЦАРКОЎНЫЯ СПРАВЫ

У папярэднім нумары "Ц.П." мы ўжо пісалі праз стварэньне пасьля абвешчаньня незалежнасьці Украіны незалежнае ад Маскоўскага Патрыярхату краёвае Праваслаўнае Царквы, ейны падзел ды спробы злучэньня, разам із пошукамі шляху да кананічнага зацьверджаньня іншымі цэрквамі.

Гэтым разам яшчэ раз варочаемся да тае самае тэмы, бо ў ёй навука на шлях, па якім, магчыма, давядзецца йсьці таксама й нашай Царкве.

Як мы пісалі, спробы падзеляных украінскіх цэркваў быць вызнанымі Канстантынопальскім Патрыярхатам да нядаўна не давалі вынікаў.

Праўда, Украінская Праваслаўная Царква ў ЗША пайшла пад апеку Канстантынопальскага Патрыярхату, але ёй шмат украінцаў, узлаваных супрацоўніцтвам таго Патрыярхату йз Масквою, закідала гэта як зраду.

Гэткі пагляд, аднак, зьмяніўся, калі летась памерлы патрыярх УАПЦ наказаў гэтай царкве пайсьці пад апеку мітрапаліта УПЦ у ЗША, або, пасярэдня, Канстантынопальскага Патрыярхату.

Канстантынопальскі Патрыярхат нечакана на гэтую прапанову згадзіўся ды ўрэшце заявіў, што Украіна (а значыць і Беларусь) - ягоная, няпраўна забраная, кананічная тэрыторыя, у выніку чаго наказ патрыярха Зьміцера быў выкананы.

Больш таго, украінскія япіскапы йз ЗША зайняліся пасярэдніцтвам паміж падзелянымі цэрквамі на Украіне, каб іх злучыць у вадну кананічна вызнаную краёвую царкву.

Іхная місыя была прыхільна сустрэтая УАПЦ і Кіяўскім Патрыярхатам, ды падтрыманая ўкраінскім урадам, але маскоўская юрысдыкцыя на Украіне йсьці да злучэньня адмовілася.

Больш таго яшчэ, Маскоўскі Патрыярхат, зрабіў абразьлівую пагрозу, што ўдзел Канстантынопальскага Патрыярхату "... у гэтых авантурах можа выклікаць раскол у праваслаўным сьвеце, які ... можа нагадваць царкоўную трагэдыю 1054 г.".

Чакаць іншага адказу, пэўна-ж, было цяжка, бо Маскоўскі Патрыярхат нятолькі закасьцянелы ў ягоных захопніцкіх паглядах, але й баіцца згубіць лікава передовае мейсца ў праваслаўным сьвеце.

Што гэта так паказвае статыстыка: пад маскоўскай юрысдыкцыяй у самой Расеі 7,000 парахвіяў, а вонках Расеі больш як 9,000, з гэтага на Украіне 8,000 і на Беларусі 1,100.

Калі злучыць маскоўскую юрыдыкцыю на Украіне з украінскімі, дык Украінская Царква, із 14,000 парахвіяў, будзе большая за маскоўскую.

Ня гледзячы на маскоўскі супраціў, выглядае, аднак, што стварэньне аднае кананічна вызнанае украінскае аўтакефальнае царквы зь дзьвёх цяперашніх на добрай дарозе, бо гэтую справу пад наглядам Канстантынопальскага Патрыярхату падрыхтоўвае супольная камісыя япіскапаў.

Гэтая падзея, магчыма, станецца падчас сёлетняга наведу запрошанага прэзыдэнтам Украіны Канстантынопальскага Патрыярха Баўтрамея.

Нажаль, маскоўская юрысдыкцыя на Украіне застанецца надалей, пакуль гэтую пятую калёну ня зьліквідуе нацыянальная сьведамасьць вернікаў.

# ПРАВАСЛАЎЕ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

*Ад рэдакцыі: Кожны зьняволены народ дазнае пад варожай уладай вялізарныя страты. Раўнуючы, аднак, зь іншымі народамі, што былі пад чужынскім займом, наш народ пацярпеў куды болей, бо, звыш робленых кожнай акупацыяй шкодаў, ад яго было адабранае ды аддадзенае суседам ягонае імя.*

*З гэтым рабункам, нажаль, пагадзіліся пачынальнікі нашага адраджэнскага й вызвольнага руху, ды перахрысьцілі наш народ на меншбрацкую з Масквою мянушку. Гэта й стала прычынай гістарычнага бяспамяцтва ды блуканьня, што пашыраныя нятолькі сярод бальшыні нашых звычайных суродзічаў, але часта й сярод гісторыкаў.*

*Таму трэба вітаць кожнае дасьледаваньне, што выясьняючы гістарычную праўду, паказвае дарогу з блуднага кола няведаньня праўды.*

*З гэтай мэтай і зь цікавасьці закранутае аўтарам тэмы гэнэзу ўладных колаў Вялікага Княства Літоўскага, ды ролі Праваслаўя ў стварэньні гэтае беларускае дзяржавы, мы ніжэй друкуем працу выкладчыка беларускае літаратуры на Упсальскім нівэрсытэце ў Швэцыі доктара гісторыі Андрэя Катлярчука.*

*Мы, праўда, ў адрозьненьне ад паважанага дасьледніка, трымаемся думкі, што балцкія князі й баяры ня былі кліканыя на службу да беларускіх князёў, а йшлі на яе самыя, ды адумыслова ня вучыліся беларускае мовы, а, жывучы змалку ў беларускім асяродзьдзі, карысталіся ёю як роднай.*

*Мы, таксама, уважаем, што "руская" культура ня ўзьдзейвала на жыцьцё Вялікага Княства Літоўскага, а культура гэтае дзяржавы была беларуская, бо гэта была беларусамі створаная беларуская дзяржава.*

*Нязгодныя мы й зь дзе якімі іншымі аўтаравымі выснавамі, аднак уважаем напісаную ім працу за важны крок на шляху да выяўленьня нашае запраўднае гісторыі й таму прапануем яе ўвазе нашых чытачоў.*

Цяжка ўявіць царкоўную гісторыю вонках гісторыі дзяржаўнае. Нажаль, узаемная повязь паміж Праваслаўнай Царквою і сьвецкай уладай Вялікага Княства Літоўскага - сярэднявечнае дзяржавы, што задзініла ўсе беларускія землі ў сучасных межах этнасу - дасьледаваная недастаткова.

У аснове клясычнае вэрсіі савецкае гістарыяграфіі ляжала тэза праз займо літоўцамі-балтамі *(жамойтамі - Рэд.)* славянскіх земляў, як галоўным дзейніку, што абумовіў стварэньне Вялікага Княства Літоўскага. Калі-ж гэтая заваёва была "чужынскай", дык да славянскае гісторыі дадзеная дзяржава мела адно пасярэдняе дачыненьне. Сярэднявечныя крыніцы сьветчаць, аднак, праз магутнае ўзьдзеяньне праваслаўнае "рускае" культуры на жыцьцё Вялікага Княства літоўскага ў раньнюю пару ягонага існаваньня.

Калі гэнэз пласта, што правіў Вялікім Княствам Літоўскім, разглядаць із становішча канцэпцыі "пакліканьня варагаў" у даўнярускай дзяржаве, дык шмат якія факты здабываюць лягічную пасьлядоўнасьць. Пакліканыя на вайскова-дыпляматычную службу балцкія князі прыймаюць хрысьціянскія імёны, засвойваюць чужую мову, наладжваючы, гэткім чынам, цесную сувязь із уладнымі коламі беларускіх земляў. Напрыклад, адзін із летапісаў Вялікага Княства Літоўскага - "Хроніка Быхаўца" паказвае працэсы актыўнае славянізацыі першых балцкіх князёў *(праваслаўныя Вайшалак, Лаўрымант, Даўмонт, шэсьць Альгердавых сыноў)*. Летапісец выяўляе значную ролю ў прыйме палітычных пастановаў "рускіх" з паходжаньня баяраў, гэткіх, як Міндоўгаў ваявода Астап, Таўцьвілаў баярын Пракоп. Паводле летапісцавых вестакаў, калі вялікі князь Вітаўт "стаў рускім, дык яму далі ймя Юры". Камэнтуючы дадзены ўрывак, Н. Улашчык падкрэсьліваў, што стаць рускім значыла ахрысьціцца паводле праваслаўнага абраду. Ведама, што ў 1246 годзе ў Наваградку "кароль Літвы Міндоўг" прыйняў "Хрыстовую веру йз Усходу". Ягоны сын Вайшалак-Васіль прыйняў манаства ды заснаваў праваслаўны манастыр у Лаўрышаве. Ягонае вялікае княжаваньне Вайшалак перадаў праваслаўнаму русіну Шварну *(Свараміру)* - сыну "караля Русі" Данілы Галіцкага. Вялікі князь Альгерд, дзьве жонкі якога былі праваслаўныя русінкі *(Марыя Віцебская, а пасьля Вульльяна Цьверская)*, уміраючы, прыйняў паводле праваслаўнага звычаю манаскі постырыг зь імём Аляксей. Полацкі япіскап Якаў называў вялікага князя Віценя ягоным сынам.

Заходнія храністы, каб узьняць значаньне палітычнае дзейнасьці крыжацкага ордэну, часта перабольшвалі паганства Літвы. У адным із "нутраных" дакумэнтаў каталіцкіх рыцараў сказана, што ў Літве ў запраўднасьці вялізная колькасьць знаці, князёў і баяраў русіны, а вялікі князь Сьвідрыгайла аднаначчна названы "рускім". Яшчэ да прыйма вялікім князям Ягайлам каталіцтва, большасьць балцкіх князёў на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага была асыміляваная паводле мовы й веравызнаньня. З гэтым фактам згодныя й дзе-якія лятувіскія гісторыкі.

Дамінанта ў паводзінах кіраўное эліты ў паліэтнічным асяродзьдзі заўсёды аднолькавая. Службовая знаць этнічнае меншасьці імкнецца да зьліцьця йз знацяй уладнага палітычнага народу, што аб'ектыўна даводзіць да дээтнізацыі й асыміляцыі. Якраз гэтак выглядала справа з паганскай знацяй Вялікага Княства Літоўскага. Лятувіскія гісторыкі моўчкі абходзяць факт ужываньня ў адміністрацыі й у судзе каталіцкіх неславянскіх раёнаў Вялікага Княства Літоўскага старабеларускае мовы й кірыліцы. Адказ просты: карыстаньне беларускай мовай у балцкіх раёнах было выявам палітычнае сілы старабеларускае шляхты - народу Вялікага Княства Літоўскага. Падобныя прыклады характэрныя для раду рэгіёнаў сярэднявечнае Эўропы.

Ідэалёгію маладое дзяржавы вызначалі праваслаўныя кніжнікі. Якраз яны былі аўтарамі напісаных кірыліцай на старабеларускай мове дзяржаўных летапісаў Вялікага Княства Літоўскага. Відавочна, яны сфармавалі канцэпцыю задзіненьня пад уладай Вялікага Княства Літоўскага ўсіх праваслаўных "рускіх" земляў.

Цэнтрам зьбіраньня й першай сталіцай Вялікага Княства Літоўскага стаў Беларускі Наваградак, мейсцам зьездаў фэадалаў - Слонім. На беларуска-балцкай этнічнай мяжы знаходзіліся другая й трэйцяя сталіцы Вялікага Княства Літоўскага - Трокі й Вільня. Пры вялікім князі Вітаўце-Юрым здавалася, што посьпех у задзіненьні праваслаўных земляў будзе за Літвою. Аўтар створанае ў 1428 годзе ў Смаленску, у асяродзьзі япіскапа Гарасіма "Пахвалы Вітаўту" пісаў, што Вітаўту падпарадкоўваліся "*великое княженье Литовское и Роуськое и иная великая княженья, спроста рещи вся Роуська земля ... тогда бяхоу крепко слоужахоу емоу велиции князи ... Московьски ... Тферьски ... Рязаньски, великий Новгород, великий Пъсков и спроста рещи весь Роуський язык*". Беларускі гісторык М. Гайдук першы зьвярнуў увагу на тое, што заходняя мяжа Вялікага Княства літоўскага йз Польшчай (паводле стану на 1546 год) супадае йз сучаснай мяжою паміж праваслаўнымі беларусамі й каталікамі-палякамі на Беласточчыне.

Сталіца Вялікага Княства Літоўскага - Вільня, наўсуперак міталягічнае лягенды, паводле археалягічных дадзеных, паўстала як крывіцкае асельлле. Праз гэта, часткова, кажа славянская этымалёгія імёнаў трох Вілянскіх мучанікаў: Круглец, Няжыла й Кумец. Сучасьнік падзеяў, аўтар "Жития трех Виленских мучеников" грэк-бізантыец Міхал Бальсамон падкрэсьліваў, што тры мучанікі "былі рускія, але ня з тых, хто йз самага пачатку прыплываў да нас на плыўнах (!), а йз тых, што называліся ліцьвінамі". Вільня была ўлучаная ў "Список городов далеких и близких" (каля 1396).

Паводле сьветчаньня немца Сыгізмунда Гэрбэрштайна, што наведаў сталіцу Вялікага Княства Літоўскага ў 1526 годзе, "там рускіх сьвятыняў было больш, як каталіцкага веравызнаньня". Паводле падліку польскага гісторыка Е. Ахмянскага, у пачатку XVI стагодзьдзя у Вільні было 13 праваслаўных цэркваў, і іхная колькасьць працягвала расьці: у 1596 годзе напярэдадні прыйма вуніі ў сталіцы налічвалася 15 цэркваў пры 14 касьцёлах. Апякунамі і парахвіянамі была палітычная знаць і меставы патрыцыят. Да сярэдзіны XIX стагодзьдзя ў Вільні існавала пабудаваная ў даўнім беларускім стылі "прыдворная" (!) мураваная царква вялікае мучаніцы Параськевы-Пятніцы.

Побач із Кіявам ды Масквою сярэднявечная Вільня - цэнтар праваслаўнае культуры ўсходнеславянскіх народаў. Ад пачатку XV стагодзьдзя да 1596 году места было цэнтральнай рэзыдэнцыяй мітрапаліта Кіяўскага й усяе Русі. Выданьне беларускім першдрукаром Францішкам Скарынам у Вільні "Апостала" зьдзейвалася пры фінансавым падтрыманьні мескага бурмістра Якуба Бабіча й судзьдзі Багдана Аньковіча, пад апекай сьвецкае й духоўнае ўладаў Вялікага Княства Літоўскага - мітрапаліта Язэпа III і вялікага князя Жыгімонта Старога, што, паводле словаў беларускага аўтара "Прамовы Мялешкі", "*ляхов з их хитростью вельмі не любіл, а Литву и Русь нашу любительно миловал*".

У польскай і лятувіскай гістарыяграфіі прыйнята азначаць рамкі прарыву "русінскае" эліты ў вышэйшыя палітычныя структуры Вялікага Княства Літоўскага сярэдзінай XVI стагодзьдзя. Нашыя прыклады кажуць праз тое, што праваслаўная знаць займала ў ім вядное становішча з мамэнту ягонага стварэньня. Найбольш ведамымі ў Эўропе палкаводцамі былі Канстанцін Астрожскі - старэйшы й Міхайла Глінскі - абодва, як ведама, беларусы.

У заходняэўрапэйскіх навуковых працах XV - XVIII стагодзьдзяў Літва трактуецца як славянская дзяржава. У XVI стагодзьдзі 80% фэадалаў Вялікага Княства Літоўскага былі ліцьвінамі-беларусамі і 19% - жамойтамі-балтамі. Сярод магнатаў - князёў Вялікага Княства Літоўскага, што выстаўлялі ў XIV - XVI стагодзьдзях войска на попіс, абсалютная бальшыня была праваслаўнага беларускага паходжаньня: Астрожскія, Слуцкія, Сапегі (із Смаленшчыны), Чартарыйскія. Вішнявецкія, Агінскія, Мсьціслаўскія, Глінскія, Глябовічы, Сьвірскія, Смаленскія, Лукомскія, Баратынскія, Ільлінічы, Хадкевічы, Зяноўявічы, Бельскія, Тышкевічы. Прадстаўнікі гэтых родаў якраз і фігуруюць у крыніцах гісторыі Вялікага Княства Літоўскага як "Літва" й "ліцьвіны". Як адзначае Б.Н. Флораў, "тарнаваньне ў дачыненьні да праваслаўнае знаці Вялікага Княства Літоўскага гэткае тэрміналёгіі характэрнае для ўсяго рускага летапісаньня XIV - XV стагодзьдзяў. Цікава, што ў дачыненьнях зь беларускімі герархамі ў XV - XVI стагодзьдзях расейскія япіскапы карыстаюцца формулай "усяго вялікага праваслаўя Літоўскае зямлі".

У абежным лісьце мітрапаліта ўсяе Русі Ёны (*былога Разанскага япіскапа, першага мітрапаліта аўтакефальнае РПЦ*), "*во отчину, в великое государство господина и сына моего великого Короля в Литву*", вялікі князь літоўскі Казімер названы сынам "*о Святом Дусе сына нашего*". У 1451 годзе мітрапаліт Ян у лісьце да Віленскага ваяводы "*пану Михаилу Кезгайловичу*" дзякуе князю за дбайнасьць праз царкоўныя справы: "*И о том тебе, своего сына, благодарю и благословляю и Бога молю о многолетнем здравии*", называючы, пры гэтым, магнатаў, што былі ў Вялікай Радзе Вялікага Княства Літоўскага ягонымі духовымі дзяцьмі (!): "*До Вас, наших детей, до великих панов ...*".

Адцемім, што (сёньня называная літоўскай) жамойцкая літаратура й культура займала ў Вялікім Княстве Літоўскім вельмі сьціплае мейсца. За ўвесь час існаваньня гэтае дзяржавы няведама ніводнага афіцыйнага акту, напісанага на жамойцкай мове. Сярэднявечная жамойцкая літаратура разьвіваецца, галоўным чынам, вонках межаў Вялікага Княства Літоўскага: у княстве Прускім. Гэтак, у XVI стагодзьдзі йз 324 кніжных выданьняў Вялікага Княства Літоўскага толькі 3 - жамойцкія; і гэта на полі росьцьвіту кірылічнага кнігадрукаваньня на старабеларускай і царкоўнаславянскай мовах. Гэткім чынам, ня гледзячы на свомы Вялікаму Княству Літоўскаму мультыкультуралізм, разьвіцьцё розных культурных традыцыяў - лацінскае, жыдоўскае, польскае, жамойцкае, татарскае, - дамінуючае значаньне ў XIV - XVI стагодзьдзях беларускае, у першую чаргу праваслаўнае культуры відавочнае. Ня выпадкова Літва для праваслаўнага духавенства

Вялікага Княства Літоўскага - *"гэта роднае, рускае гаспадарства"*. У 60 гадох XVI ст. у Маскву зь Літвы па рукапісы царкоўна-славянскае Бібліі, з даручэньня Жыгімонта Аўгуста, прыехаў праваслаўны сьвятар Ісая: "выпрасіць" у Івана Жахнога *"Біблію по нашему языку рускому словенскому на спис слово в слово и в нашем государстве руском Великом князстве Литовском выдати тисненнем печатным нашему народу христианскому рускому-литовскому, да и рускому московскому"*.

Створаныя на старабеларускай мове зборы законаў ВКЛ - "Статуты" - гарантавалі правы *"церковныя як латинского так и грэцкага абраду"*. Зьвернем увагу, што выхад Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1588 году, - гэтага выдатнага помніка сярэднявечнага беларускага права, - асьвячаны праваслаўнай традыцыяй. Тэкст папярэджваюць цытаты зь нядойшлага да нас беларускага перакладу Бібліі *(Кніга 2, Параліпомэнон, Разьдзел 19, сьціхі 6, 7, 9 : Бо не справуете суду человечему, але суду Божему. А што кольвек осудите все на вас се обвалит. Нехай буде во вас страх господен завжды. А справуйте все шчире. Нету бо пред Господем Богом нашим неправости, ани брасованья особе. Ани пожеланья даров. Милуйте справедливое которые судите землю. Хто любить неправду, тот ненавидить души своее. Правом судите сынове человечестии"*.

Усьведамляючы пасьля Люблінскае вуніі йз Польшчай 1569 году небясьпеку палянізацыі й лацінізацыі, праваслаўная знаць Вялікага Княства Літоўскага замацавала ў Статуце 1588 году дзяржаўны статус кірылічнае пісьменнасьці й старабеларускае мовы. Гэта была мова, блізкая да народных дыялектаў. На ёй гаварыла вышэйшая кляса Вялікага Княства. Гэтая мова мела самастойнае значаньне сярод іншых пісьменных славянскіх моваў; між іншым, яна патрабавала адумысловага перакладу на расейскую актавую мову, якую ў Літве называлі "маскоўскай". Бяручы на ўвагу сумныя дазнаньні рэлігійных войнаў ў краінах Заходняе Эўропы (*"иньших королевствах"*), 3-ці артыкул 3-га разьдзелу гарантаваў у Вялікім Княстве Літоўскім рэлігійную талерантнасьць.

Аднак у выніку Берасьцейскае вуніі 1596 году Праваслаўная Царква старабеларускае дзяржавы апынулася ў вельмі цяжкім крызісе. Большасьць герархаў прыйняла вунію й перайшла ў грэка-каталіцызм. Звычайныя сьвятары часта былі мала адукаваныя й няздольныя ўзьдзейваць належным спосабам на ўладу й парахвіянаў. У гэтых умовах пераважнае значаньне ў захаваньні Праваслаўя займела пазыцыя праваслаўнае знаці Вялікага Княства й патрыцыяту беларускіх месьцічаў.

На наш погляд, масавы пераход ў каталіцтва знатных праваслаўных родаў - палемічнае перабольшаньне. У Вялікім Княстве Літоўскім праваслаўная шляхта захавала вернасьць Маці Царкве. Ля вытокаў найбуйнейшага ў Княстве Віленскага Праваслаўнага Брацтва Сьвятога Духа стаялі лідары беларускае шляхты Канстантын-Васіль Астрожскі, навагрудзкі ваявода Хведар Скумін-Тышкевіч, менскі ваявода Багдан Сапега. У брацтва запісаўся цэлы рад шляхты Вялікага Княства: *"сь кола рыцерского братьи нашое немало"*. Да менскага брацтва належалі *"паны-братья церковныя шляхты релеи старожитное, греческое"*.

Палітычнае й фінансавае падтрыманьне шляхты дало магчымасьць праваслаўным брацтвам разгарнуць шырокую этнакультурную дзейнасьць, як выдавецтва кнігаў на старабеларускай і царкоўна-славянскай мовах, дапамога царкоўным парахвіям і манастырам, утрыманьне брацкіх школаў і лячэўняў, спонсарства навучаньня студэнтаў.

Асаблівае мейсца ў гэтай дзейнасьці займае асоба князя Канстантына-Васіля Астрожскага. Праграма дзейнасьці гэтага асьветніка грунтуецца, на наш пагляд, на наступных прынцыпах:

1. Разьвязаньне міжканфэсыйных праблемаў праўным шляхам.
2. Стварэньне новага, адукаванага пласта праваслаўнага духавенства, здольнага бараніць інтарэсы парахвіянаў перад уладаю.
3. Разьвіцьцё царкоўна-славянскага й беларускага кнігадрукаваньня.
4. Узнаўленьне сувязяў беларускага праваслаўя йз грэцкай традыцыяй.

У цэнтральнай рэзыдэнцыі - Астрозе, - зь ініцыятывы Канстантына-Васіля Астрожскага, - арганізуецца навуковая група, у якую запрошаныя дзеячы розных этнічных культураў і канфэсыяў: праваслаўны беларус Міхаіл Багдановіч Гарабурда, беларускі паэт-кальвініст Андрэй Рымша, расейскі першадрукар Іван Фёдараў, грэкі Астап Натанаіл і Кірыла Лукарыс, украінец Гарасім Сматрыцкі, паляк-пратэстант Марцін Бранеўскі, паляк-каталік прафэсар матэматыкі Ян Лятош ды іншыя. Галоўная мэта гэтага кола - стварэньне інтэлектуальнае эліты прваслаўнага грамадзтва Рэчы Паспалітае.

Першым выданьнем Астрожскае друкарні стаў падручнік пачатковых навыкаў пісьма й чытаньня на царкоўна-славянскай і грэцкай мовах. Значна, што ў тэксьце лемантара было зьмешчанае патрыятычнае *"Сказание о буквах"* чарнарызца Храбра (X ст.); панэгірык славянскаму альфабэту сьвятых Кірылы й Няхведа, накіраваны супраць тых, хто адмаўляў кірыліцы роўнае права з лацінскім і грэцкім альфабэтамі. Асаблівае мейсца ў дзейнасьці друкарні займае першае поўнае выданьне царкоўна-славянскае Бібліі, тэкст якое папярэджаны панэгірыкам Канстантыну-Васілю Астрожскаму на старабеларускай мове й прадмова на грэцкай побач із царкоўна-славянскай мовамі., Астрог становіцца буйнейшым культурным цэнтрам Праваслаўя ў Рэчы Паспалітай побач зь Вільняй ды Кіявам.

За прыкладам Астрожскае, у брацкіх школах Вялікага Княства Літоўскага ўводзіцца шырокая філалягічная падрыхтоўка. Паводле ўставу магілёўскага праваслаўнага брацтва "Святого Въеханья Господня" (1602) *"в школе теж брацкой дети братьи уписное и убогих сирот языка и письма словенскаго, руского (старабеларускага, - Аўт.), латинского и польского накладом брацким дармо учити повинны"*.

*Др. Андрэй Катлярчук*

*( Працяг у наступным нумары)*

**" ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ" ПАТРАБУЕ ДАПАМОГІ!**

## ПАРАХВІЯ БАПЦ У МЭЛБУРНЕ

У канцы 40-х і пачатку 50-г год мінулага стагодзьдзя аўстралійскі ўрад прыйняў у краіну хвалю эўрапэйскіх вяенных уцекачоў, сярод якіх былі й беларусы, ды нятолькі з назову, але й запраўдныя патрыёты.

Пачаткі жыцьця на новай зямлі былі цяжкія, але адпрацаваўшы тэрміны абавязковых кантрактаў, нашыя працавітыя ды гаспадарлівыя людзі пакрысе пазнаходзілі лепшыя працы й пачалі сяліцца, найбольш у вялікіх местах як Адэляйда, Мэлбурн, Сыднэй, Пэрт ды вакол іх.



Царква Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Астапа ў Яравіл (Мэлбурне).

У іхных сэрцах, аднак, не зважаючы, на цяжкасьці ўладжаньня собскага жыцьця, ня гасла любасьць да Роднага Краю ды імкненьне служыць Яму нават у далёкай заакіянскай краіне.

Гэткім чынам у вышэй названых местах засналіся беларускія грамадзкія арганізацыі, што, амаль усе, існуюць яшчэ й сёньня.

Ня ўсюды, нажаль, удалося, разам із грамадзкім жыцьцём, наладзіць царкоўнае, бо ня было свайго духавенства.

У гэтай справе пашчасьціла толькі двом асяродкам, першым зь якіх была Адэляйда, дзе апынуўся ды заснаваў парахвію БАПЦ а. Міхаіл Шчурко, ды куды пазьней пераехаў архіяпіскап Сяргей.

У Мэлбурне-ж парахвія БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучанікаў стварылася ў 1958-м годзе, калі туды прыехаў з Аргентыны ды ачоліў яе а. архімандрыт Мадэст Яцкевіч.

Зь вернікаў да ейнага стварэньня й далейшай пасьпяховай дзейнасьці найбольш спрычынілася тагачасная Парахвіяльная Рада ў складзе: Зьміцера Кажуры - старшыні, Аляксандра Кулакоўскага - сакратара й Мікалая Барстока - скарбніка.

Нажаль, матарыяльны стан вернікаў парахвіі доўга не дазваляў здабыць собскі царкоўны будынак і Божыя службы йшлі рэгулянна, ды абрады выконваліся ў найнятым у прэзбітэрыянскай царкве памешканьні.

Тамсама адбываліся й нацыянальныя ўрачыстасьці ды адзначаліся традыцыйныя беларускія сьвяты.

У 1959-м годзе пры парахвіі пачала працаваць нядзельная школка, у якой да 1962-га году дзяцей навучаў а. архімандрыт Мадэст, а пасьля, ажно да ейнага закрыцьця ў 1965-м, усьвячаны архіяпіскапам Сяргеям 1962-м годзе на сьвятара а. Аляксандар Кулакоўскі.

Царкоўным хорам да 1962-га году кіраваў Аляксандар Кулакоўскі, пазьней Мікалай Барсток, а пасьля іх аж да сёньня Мікалай Устынаў.

У 1963-м г. а. Кулакоўскі зарэгістраваў парахвію паводле аўстралійскіх законаў, у выніку чаго яна стала роўнаправўнай із усімі іншымі цэрквамі ў краіне.

У той самы год было заснаванае й парахвіяльнае сястрыцтва, якое існуе да сёньня й спраўна дзее пад кіраўніцтвам ейнае старшыні Аляксандры Русак і сакратаркі Тамары Субач.

На патрэбы школкі й дзеля настаўленьня вернікаў яшчэ а. архімандрыт Мадэст злажыў, а парахвія выдала шапіраграфным друкам, тры невялікія кніжыцы: "Стары Запавет", "Новы Запавет" і "Катэхізіс".

Кожны год, пачынаючы ад 1963-га й канчаючы 2000-м, дзякуючы ахвярнай працы а. Кулакоўскага ў Мэлбурне таксама выходзіў друкаваны на шапіраграфе настольны "Беларускі Праваслаўны Каляндар", у якім зьмяшчаліся патрэбныя на царкоўныя адправы весткі й іншыя матарыялы на рэлігійныя, ды беларусаведныя тэмы.

У 1963-м годзе пры парахвіі быў створаны гурток мастацкае самадзейнасьці "Каліна", якім да 1970-га году кіраваў а. Кулакоўскі.

Гурток абняў частку аселага ў Мэлбурне маладога беларускага пакаленьня й займаўся вывучэньнем беларускае песеннае спадчыны ды ейным выкананьнем падчас ладжаных у парахвіі ўрачыстасьцяў, наведваньняў суродзічаў з калядняй зоркай і рэпрэзэнтацыяй беларускае культуры навонках.

Гурток "Каліна" у жаночым складзе бяз перапынку дзее й да сёньня, у ім 6 сьпявачак, якімі кіруюць Тамара Субач і Вера Гэрман.

У 1990-м годзе гурток выдаў касэту зь беларускімі й украінскімі песьнямі, а ў 1998-м кампактны дыск.

У 1968-м годзе парахвія купіла асобную дзялянку на могільніку, дзе з тае пары спачыла ўжо нямала

суродзічаў.

У1973-м годзе на гэтай дзялянцы быў пастаўлены агульны помнік з напісамі на беларускай і ангельскай мовах: "на вечны ўспамін усіх ведамых і няведамых суродзічаў".

У 1980-м годзе, з Божае ласкі й праз ахвярную працу парахвіянаў пад кіраўніцтвам а. Кулакоўскага, парахвія урэшт асягнула мэту, да якое імкнулася праз 22 гады - былі куплены собскі царкоўны будынак.

Пасьля адпаведнага ўладжаньня, асьвячэньне будынку, якое ачоліў прыбылы йз ЗША япіскап Ізяслаў, адбылося ў лістападзе 1981-га году.

Займеўшы собскі малебны будынак із заляю парахвія ўзьняла ейную працу на яшчэ вышэйшы ўзровень, бо побач з адправамі й адзначэньнем рэлігійных ды нацыянальных сьвятаў, тут знайшлося мейсца, як на арганізацыйную працу ды сходы парахвіі, гэтак і на прыватныя ўрачыстасьці.



Іканастас Царквы Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Астапа ў Яравіл (Мэлбурне).



Гурток "Каліна" сьпявае.

У залі зарганізавалася й немалая бібліятэка, а пазьней, із ростам ліку пэнсыянэраў, пачаў зьбірацца сацыяльны клюб, што ладзіць карыснае праводжаньне часу, як наведваньні музэяў, экскурсыі ў цікавыя мейсцы, пікнікі й пад.

Дзейнасьць парахвіі не абмежваецца, аднак, да нутранога жыцьця: пад кіраўніцтвам а. пратапрасьвіцера Аляксандра Кулакоўскага парахвія супрацоўнічае зь іншымі веравызнаньнямі, бярэ ўдзел ў супольных адправах, усьвячэньнях, уваходзіць у Раду Цэркваў штату Вікторыя, у якой а. Аляксандар належыць да экзэкутывы.

Штогод яна бярэ ўдзел у адзначэньні тыдня паняволеных народаў.

Парахвія дзейная таксама й у агульным жыцьці БАПЦ - а. Аляксандар у 1984 -м г. быў дэлегатам на 3 Сабор БАПЦ у Манчэстары, а ў 1990-м на 4-ты ў Бруклíне, ён таксама й канцлер Кансысторыі БАПЦ.

Выдатную дзейнасьць парахвіі й а. Кулакоўскага высака цэніць Я. М. Мітрапаліт Ізяслаў і з радасьцяй 3 разы наведваў іх за апошнія 20год.

Колькасны стан парахвіі, нажаль, меншае, бо старэйшае пакаленьне адыходзіць, а малодшыя разьяжджаюцца й адзінай надзеяй на зьмену застаецца новая іміграцыя.

У гэтай справе а. Кулакоўскі з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў рабіў захады перад аўстралійскім урадам і будзем спадзявацца, што яны дадуць вынік.

Сёлета, у лістападзе, парахвія будзе ўрачыста адзначаць 20-я ўгодкі асьвячэньня царкоўнага будынку - з гэтае нагоды просім Бога й шчыра жадаем парахвіянам і іхнаму кіраўніку а. Аляксандру яшчэ шмат год у добрым здароўі плоднае працы на Божай ніве й хуткае зьмены.

## 25-га САКАВІКА Ў КІЛКЭНЫ (АДЭЛЯЙДЗЕ)

У нядзелю, 25-га сакавіка г.г., Парахвія Сьв. Ап. Пятра й Паўла БАПЦ у Кілкэны ўрачыста адзначыла 83-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918-м годзе.

Сьвяткаваньне пачалося Сьв. Літургіяй, якую ў хораша прыбранай жывымі кветкамі й люднай маленьнікамі царкве адправіў а. Пётр Касацкі.

На Сьв. Літургіі а. Пётр сказаў цікавае павучэньне на эвангяльскія тэмы.

Ягоная ўрачыстая служ-служба й словы ды прыгожы сьпеў хору стварылі ў маленьнікаў узьняты настрой.

Пасьля Сьв. Літургіі а. Пётр адправіў прынагодны да 25-га Сакавіка малебен, на якім таксама сказаў даходлівае да сэрцаў слова.



Выступ хору на сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў Кілкэны (Адэлайдзе).

Падчас малебну сп. сп. Жорж Шчурко малодшы й Камінскі стаялі ў ганаровай варце зь беларускім й аўстралійскім сьцягамі.

У канцы малебну было прапяянае "Магутны Божа" ды "Дай Божа шмат год" беларускаму й аўстралійскаму народам.

На Сьв. Літургіі й падчас малебну ў царкве быў прысутны запрошаны прадстаўнік аўстралійскага ўраду сп. Майкэл Аткінсон.

Пасьля адправаў маленьнікі перайшлі ў прыцаркоўную залю на грамадзкае сьвяткаваньне.

Пачалося яно прапяньнем малітвы за Беларусь і "Войча Наш", ды прасьбой Божага прыяньня прыгатаванаму сястрыцтвам пачастунку.

Адчыняючы сьвяткаваньне старшыня Парахвіяльнае Рады сп. Міхась Шчурко папрасіў хор прапяяць аўстралійскі й беларускі нацыянальныя гімны ды ўсьлед даў слова пачэснаму аўстралійскаму госьцю, сп. Майклу Аткінсону.

Сп. Аткінсон прывітаў прысутных із нацыянальным сьвятам і пажадаў посьпехаў мяйсцовыай беларускай грамадзе ды асягненьня поўнае незалежнасьці Беларускаму Народу.

Пасьля пачастунку смачнымі стравамі, за якія вялікая падзяка парахвіяльнаму сястрыцтву, прыйшла пара на мастацкую частку сьвяткаваньня.

Пачаў яе хор, прапяяўшы пад акампаніямэнт на акардэоне сп. Міколы Кандрусіка песьню "Ідуць жаўнеры Беларусі".

Усьлед сп-ня Жэня Юршо прадэклямавала вершы "Дудар" і "Пагоні", а пасьля яе хор выканаў яшчэ песьні "Дні прыходзяць, дні адходзяць, дні лятуць ..." і "Ручнікі".

Тады сп. Уладзімір Акавіты сказаў два вершы: "Прысяга" Н. Арсеньневай і "Роздум аб лёсе Беларусі" Эдуарда Яромава.

Наапошку хор прапяяў песьню "Кланяюся Табе тата", а сп. Кандрусік пад собскі акампаніямэнт выканаў песьню "Мама".

Усе выступы выклікалі шчодрыя воплескі прысутных, якіх на сьвяткаваньні было 90 асобаў.

Сьвяткаваньне на гэтым скончылася й усе ў добрым настроі пайшлі дамоў. *Ул. Акавіты*

## Й У ЯРАВІЛ (МЭЛБУРНЕ)

Як і штогод, сёлета ў нядзелю, 25-га сакавіка г.г., Парахвія Сьв. Вілянскіх Мучанікаў Антона, Яна й Астапа ў Яравіл (Мэлбурне) ўрачыста адзначыла гэтым разам 83-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сьв. Літургію й малебен з гэтае нагоды адправіў кіраўнік парахвіі а. пратапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі разам з гасьцьмі: а. Міхаілам Бурносам і украінскім сьвятаром а. Юрым Семянчуком.

Прыгожа пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. Мікалая Устынава.

Далейшае сьвяткаваньне адбылося ў прыцаркоўнай залі, дзе сястрыцтва прыгатавала для ўдзельнікаў смачны пачастунак, за што яму вялікая падзяка.

Пасьля пачастунку пачалася афіцыйная й мастацкая частка сьвяткаваньня ў праграме якое быў прысьвечаны Акту 25-га Сакавіка рэфэрат, дэклямацыя патрыятычных вершаў і выступ песеннага гуртка "Каліна".

На сёлетняй сакавіковай урачыстасьці гурток "Каліна", можа больш як калі, захапіў прысутных ягоным выкананьнем родных песьняў, за што атрымаў шчодрыя воплескі.

Духова ўзмацаваныя сьвятняй урачыстасьцяй прысутныя бадзёрай вярнуліся да штодзённага жыцьця.

# ЦАРКОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ, АБО КАНОНЫ

Царкоўнымі правіламі, або канонамі называюцца выдадзеныя царкоўнай правадаўнай уладай на працягу стагодзьдзяў пастановы, што вызначаюць парадак царкоўнага жыцьця й абавязваюць кожнага, хто належыць да праваслаўнае царквы.

Раўнуючы йзь сьвецкімі правамі, іх можна было-б назваць пашыранай царкоўнай канстытуцыяй.

Праз каноны й кананічнасьць у нашую пару гаворыцца шмат, найбольш з прычыны імкненьня зволеных ад савецкага займа народаў займець свае кананічныя праваслаўныя цэрквы й намаганьяў Маскоўскага Патрыярхату перакручваньнем канонаў ня даць гэтым імкненьням эбыцца.

Нажаль, мала хто зь беларускіх праваслаўных вернікаў меў магчымасьць пачуць якія-колечы выясьнені гэтага пытаньня й таму большасьць мае слабое ўяўленьне адкуль каноны ўзяліся ды які іхны зьмест, з чаго й карыстае Маскоўскі Патрыярхат, каб пасеяць у думках сумлеў да кананічнасьці зайснаваньня неналежных да яго цэркваў.

З увагі на гэта, спрабуем гэтым разам коратка пазнаёміць нашых чытачоў із паходжаньнем канонаў, а пазьней із з тымі зь іх, што датычаць нашага права на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ды дзе-якімі іншымі пытаньнямі.

Вось-жа, правілы, або каноны, што імі кіруюцца праваслаўныя цэрквы, складаюцца йз: А. Асноўных, а гэта як: І. Правілы Сьв. Апосталаў, ІІ. Правілы сусьветных *(ц.-сл. вселенских)* сабораў, ІІІ. Правілы краёвых *(ц.-сл. поместных)* сабораў, IV. Правілы Сьв. Айцоў., ды Б. Дадатковых правілаў Сьв. Айцоў.

Адкуль гэтыя правілы ўзяліся будзе адзначана тут далей, але перад тым трэба сказаць, што ўпяршыню асноўныя царкоўныя правілы былі пазьбіраныя й выдадзеныя ў 833-м годзе ў Канстантынопалі ў кнізе "*Номаканон у IV тытулах*".

Асноўныя й дадатковыя правілы з ухвалы Канстантынопальскага Патрыярхату й Грэцкае Праваслаўнае Царквы былі апублікаваныя ў 1852-59 г.г. у "*Афінскай Сынтагме*".

На царкоўна-славянскай мове яны ўпяршыню зьявіліся ў выдадзенай у Маскве ў 1649-1650 г.г. "*Кормчей книге*".

Пазьней каноны былі публікаваныя ў шмат якіх выданьнях на іншых мовах ды ім быў прысьвечаны вялікі лік дасьледаваньняў.

Сярод царкоўных правілаў, або канонаў першае мейсца займаюць

### АПОСТАЛЬСКІЯ ПРАВІЛЫ.

Апостальскія правілы, хоць і ня былі вылажаныя на пісьме самымі Сьв. Апосталамі, але імі ўстаноўленыя, ды пераказваліся вусна, ажно пакуль ня былі сьпісаныя ды зацьверджаныя сусьветнымі саборамі.

Дапушчаецца, што ўпяршыню яны былі сьпісаныя напрыканцы трэйцяга, або на пачатку чацьвертага стагодзьдзя, бо ўжо пачынаючы ад першага сусьветнага сабору ў 325-м годзе ў Нікеі, яны ўспамінаюцца ў саборных пастановах.

У пятым стагодзьдзі зьявіўся зборнік зь 50-ма з гэтых правілаў, а ў шостым з дадатковымі 35-ма, або разам із 85-ма апостальскімі правіламі.

Урэшце, на трульскім сусьветным саборы ў 692-м годзе ўсе 85 апостальскіх правілаў былі зацьверджаныя й абавязваюць усе праваслаўныя цэрквы.

Каталіцкая Царква, аднак, вызнае толькі першыя 50 із гэтых правілаў, а 35 лічыць апакрыфічнымі.

Адхіленьне Каталіцкай Царквою далейшых 35-ці правілаў, з праваслаўнага пункту гледжаньня, тлумачыцца тым, што яны пярэчаць, або забараняюць дзе-якія практыкі гэтае Царквы, як ужываньне праснакоў да прычасьця, хрост не праз занырэньне, а паліваньне вадою, цэлібат духавенства й інш.

### ПРАВІЛЫ СУСЬВЕТНЫХ САБОРАЎ

З пашырэньнем Хрысьціянскае Веры пачалі зьяўляцца й хвальшывыя ейныя тлумачэньні, або гарэзьі, што выклікалі ў царкве непаразуменьні й закалоты.

Дзеля разгляду й асуджэньня гэтых гэрэзыяў ды разам і пастановаў у іншых насьпелых царкоўных справах спатрэбілася склікаць сем сусьветных сабораў, або нарадаў, што зьбіраліся ў местах Бізантыйскае імпэрыі пачаўшы ад IV да VIII ст. ст..

1. Першы з гэтых сабораў, скліканы з прычыны гарэзыі александрыйскага прасьвіцера Арыя, адбыўся ў 325-м годзе ў Нікеі.

На ім, апрача асуджэньня Арыявае гарэзыі, былі ўстаноўленыя асновы праваслаўнае веры, якія мы цяпер называем выявам веры.

Сабор, таксама, прыйняў 20 царкоўных правілаў.

2. Наступны сусьветны сабор быў скліканы з прычыны гарэзыі япіскапа Макядонія ў 381-м годзе ў Канстантынопалі.

Пасьля асуджэньня Макядонявае гарэзыі гэты сабор злажыў дапаўненьне да выяву веры.

Апрача таго было прыйнята 7 царкоўных правілаў, зь якіх Каталіцкая Царква вызнае толькі чатыры.

3. Трэйці сусьветны сабор, спрычынены хвальшывай навукай архіяпіскапя Нясторыя, адбыўся ў 431-м годзе ў Эфэсе.

Сабор асудзіў Нясторыяву гарэзыю й выдаў 8 правілаў, шэсьць зь якіх датычаць пытаньняў веры.

Восьмае з гэтых правілаў устанавіла аўтакефалію Кіпрскае Праваслаўнае Царквы.

У каталіцкіх зборніках канонаў ніводнага з правілаў гэтага сабору няма.

4. Асуджэньне зманнае Нясторыявае навукі на эфэскім саборы ня стрымала зьяўленьня падобнае гарэзыі, якую ачоліў архімандрыт Яўціх, у выніку чаго давялося ўзноў склікаць сусьветны сабор.

Адбыўся ён у 451-м годзе ў Халкедоне.

Сабор, як і папярэднія, асудзіў таксама й Яўціхавую гарэзыю ды прыйняў 30 царкоўных правілаў.

У каталіцкіх зборніках канонаў зьмешчаныя толькі 27 з гэтых правілаў, магчыма таму, што яшчэ на саборы прысутныя там рымскія легаты пратэставалі супраць паніжэньня ў 28-м правіле пяршынства рымскага япіскапа (папы).

5. Наступны пасьля халкедонскага сусьветны сабор лічыцца пята-шостым, або ад палацу "Trullos", у якім адбываліся ягоныя паседжаньні, называецца трульскім.

Сталася гэта таму, што пяты (553 г.) і шосты (681 г.) сусьветныя саборы займаліся толькі дагматычнымі пытаньнямі, а тымчасам, з прычыны выкліканых гарэзыямі непаразуменьняў і заклотаў, зьявілася мноства дысцыплінарных пытаньняў, што патрабавалі неадкладнага разьвязаньня.

З увагі на гэтую патрэбу імпэратар Юстыньян у 691-м годзе склікаў царкоўных прадстаўнікоў завяршыць працу двох папярэдніх сабораў.

Сабор на працягу году выпрацаваў і зацьвердзіў 102-ва царкоўныя правілы, а таксама, як тут казалася раней, афіцыйна прыйняў тэкст 85-ці Апостальскіх правілаў.

Каталіцкая царква на працягу стагодзьдзяў ставілася да пастановаў трульскага сабору парознаму, то прыймала, то адкідала іх, або толькі часткова гадзілася зь імі.

6. Сёмы сусьветны сабор быў у 787-м годзе у месьце Нікеі.

Скліканы ён быў з прычыны гарэзыі іканаборцаў, пасьлядоўнікі якое перасьледавалі пашану Божых абразоў і выяваў сьвятых ды нарабілі шмат гора й бяды.

Сабор ухваліў догму аб шанаваньні іконаў ды ўстанавіў яшчэ 22 царкоўныя правілы.

Гэты сабор вызнае й Каталіцкая Царква.

### ПРАВІЛЫ КРАЁВЫХ САБОРАЎ

Праваслаўная Царква вызнае агульнацаркоўнае значаньне пастановаў 10-ці краёвых сабораў, а гэта: 1. анцырскага 314 г., 2. новацэзарыйскага паміж 315-325 г.г., 3. гангранскага каля 340 г., 4. антыяхійскага 341 г., 5. лаадыкійскага каля 343 г., 6. сардыцкага 343 г., 7. канстантынопальскага 394 г., 8. картагінскага 419 г., 9. канстантынопальскага 861 г. і 10. канстантынопальскага 879 г.

Пастановы гэтых сабораў, ці ўстаноўленыя імі правілы датычаць царкоўных парадкаў, або дысцыплінарных пытаньняў.

Апрача іх раней была прыйнятая й пастанова картагінскага сабору зь 255 году праз паўторнае хрышчэньне гэрэтыкаў і раскольнікаў, але яна ад пачатку дзеяла толькі ў мяйсцовым абсягу, што пацьвердзіў трульскі сусьветны сабор.

Таму пастановы гэтага картагінскага сабору зьмешчаныя не ўва ўсіх зборніках канонаў, іх, напрыклад, няма ў славянскіх.

### ПРАВІЛЫ СЬВЯТЫХ АЙЦОЎ

Праваслаўная Царква вызнае таксама й правілы ніжэй пададзеных сьвятых айцоў: 1, Дзяніса аляксандрыйскага, 2. Рыгора новацэзарыйскага, 3. Пётры аляксандрыйскага, 4. Апанаса вялікага, 5. Васіля вялікага, 6. Цімоха аляксандрыйскага, 7. Рыгора Багаведа, 8. Амхвілоха іканійскага, 9. Рыгора ніскага, 10. Тахвіля аляксандрыйскага, 11. Кірылы аляксандрыйскага, 12. Гянадзя канстантынопальскага й 13. Тараса Канстантынопальскага.

Апрача іх абавязкавую сілу мае яшчэ ліст канстантынопальскага патрыярха Тараса ў справе сымоніі.

Успомненыя Сьв. Айцы ня выдавалі царкоўных правілаў ад сябе, але ў іхных творах і лістах тлумачылі значаньні саборных правілаў ды іхнае практычнае выкарыстаньне ў царкоўным жыцьці.

З павагі да мудрасьці й выдатнае царкоўнае дзейнасьці гэтых Сьв. Айцоў іхныя тлумачэньні былі апрацаваныя ў правілы, што ўвайшлі ў зборнікі канонаў.

### ДАДАТКОВЫЯ ПРАВІЛЫ

Правіламі Сьв. Айцоў замыкаецца збор асноўных кананічных правілаў Праваслаўнае Царквы.

Да яго, аднак, далучаюцца яшчэ дадатковыя правілы, што складаюцца йз: 1. Канонікана Яна Посьніка, 2. Правілаў Нічыпара Вызнаўца, 3. Сынадальных адказаў Мікалая Граматыка й 4. Кананічных правілаў Васіля вялікага, Яна Залатавуснага ды Анастаса.

Іхныя правілы, як і правілы Сьв. Айцоў таксама вылажаныя ў творах гэтых сьветачаў царквы ды пазьней былі ўлучаныя ў кананічныя зборнікі.

Гэтым канчыцца агляд крыніцаў царкоўных правілаў, або кананічнага права.

Іншым разам пастараемся зазірнуць у гэтыя правілы, каб высьвятліць дзе-якія актуальныя пытаньні царкоўнага жыцьця.

*Паводле кнігі "Правила Православной. Церкви с толкованіями Никодима, епископа далматинско-истрійскаго".*

---

## ВЯЛІКДЗЕНЬ У БРУКЛІНЕ

Парахвія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне рыхтавалася да Сьвята Хрыстовага Устаньня з Умерлых із духовай павагай ды працоўным уздымам.

У вялікім посьце вернікі людна прыходзілі да споведзі й прыймалі Сьв. Прычасьце.

У кожную нядзелю новая кіраўніца хору, сп-ня Ліда Кано праводзіла сьпеўкі.

Два тыдні перад Вялікаднём пачалі зьбірацца й шчыра працаваць ахвотніцы й ахвотнікі чысьціць царкву, ды выканалі іхнае заданьне вельмі старанна, за што ім падзяка й пахвала.

На ўрачыстай адправе ў Вербную нядзелю было асьвячэньне хораша аздобленых істужачкамі вербаў, якія, як і шмат год раней, узноў падрыхтавалі сп-ва Віктар і Глорыя Лосік.

У цярпенным тыдні былі вечаровыя адправы ў вялікі чацьвер і пятніцу.

У вялікую сыботу, вялікодныя адправы пачаліся а г. 11.30 вечара паўночніцай, пасьля якое быў крыжны йсьцеж й заранья.

Таму, што вакол сабору няма дзядзінца йсьцеж адбываўся ў прасторнай парахвіяльнай залі, у якой, аднак, было замала мейсца.

У канцы заранні хор і маленьньнікі прапялі даўні беларускі вялікодны гімн "Хрыстос Васкрос".

Усьлед за гэтым пачалася Сьв. Літургія, пасьля якое было люднае, як ніколі, асьвячэньне пасхаў.

Урэшце, паводле ўжо колькігадовае парахвіяльнае традыцыі, ладная частка маленьнікаў засела разгаўляцца пры баагата застаўленых сьвятнім пачастункам сталоў, які, не пашкадаваўшы працы, падрыхтавала сястрыцтва.

Як і на іншых нашых застольлях, і гэтым разам не абыйшлося бяз роднае песьні, што нагадала Бацькаўшчыну й родныя сем'і.

## ІМГЛА ЗАМЕСТ СЬВЯТЛА (2)

Не, Паважаны Чытачу, мы ня перадрукоўваем артыкул із "Царкоўнага Пасланца", Нр. 1/47/57 за 1999 г. пад гэтым назовам, але, ня хочучы без абразы ўзноў пагутарыць праз адвольнае абыходжаньне з праўдай і здаровым розумам, што часам чуваць у беларускіх рэлігійных передачах радыя "Свабода", паўтараем ягоны загаловак.

Гутарка будзе йсьці праз выйшлую на хвалі 10-га лютага г.г. перадачу зь няпрыемна для вернікаў названага "Сымбалям Веры" кола, што ў запісе на інтэрнэце мае загаловак "Раскол у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве".

Завязяй гэтае перадачы была прапанова рэдактара перадачаў, а. Канстанціна Бандарука сакратару Кансысторыі БАПЦ, сп. Барысу Данілюку, даць абмежаны 5-7 мінутамі адказ на чатыры пытаньні, што датычылі сытуацыі ў БАПЦ.

Ня скарыстаць з нагоды сказаць праўду праз БАПЦ, пасьля 20-ці гадовае блякады на хвалях радыя "Свабода" праўднае інфармацыі празь яе, было-б неразважна й таму, з дазволу Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, сп. Данілюк згадзіўся прачытаць для гукавага запісу загадзя напісаныя ім адказы.

Асьцярога з запісам была недарэмнай, бо заразжа пасьля яго а. Бандарук спытаў, ці сп. Данілюк ня будзе супраць, каб на гэтыя-ж пытаньні адказаў былы архіяпіскап Мікалай, або Міхаіл Мацукевіч.

Адмаўляць а. Бандаруку права выпытваць каго ён схоча, пэўна-ж, ніхто й ня думаў, але з апошняга пытаньня адразу выявіўся ягоны намер, замест адкрыць урэшт праўду праз сытуацыю ў БАПЦ, займгліць гэтую праўду собскімі слоўнымі акрабацыямі й перакручваньнямі М. Мацукевіча, што й паказала ўспомненая перадача.

Майстэрства слоўнае акрабацыі а. Бандарука чутное ад самага пачатку, калі ён, як духоўная асоба, ведаючы, што ніякая царква ня можа падзяліцца на два, ці больш нятолькі канкурэнтных, але й абы-якіх адгалінаваньняў, даўбе гэтую нябыліцу слухачам.

Далей а. Бандарук кажа, што ў выніку гэтага, паводле яго падзелу, а ў запраўднасьці бунту М. Мацукевіча супраць першагерраха БАПЦ, частка парахвіяў засталася пры ім, а частка пры Мітрапаліце Ізяславе - у запраўднасьці М. Мацукевіч збунтаваў і зманўў да сябе тры парахвіі зь япархіі сьв. пам. Мітрапаліта Андрэя, а парахвіі ў Англіі й Аўстраліі, не падтрымалі ягонага бунту й засталіся пад апекай Мітрапаліта Андрэя.

Усьлед-жа, "не паглыбляючыся", як ён кажа, "у пытаньне, хто зь іх мае рацыю, хто кананічны, а хто некананічны" ды выдаючы за факт выдум адгалінаваньняў, а. Бандарук, як на сьмех, надзяляе БАПЦ і двама, быццам роўнымі, галовамі - мітрапалітамі.

Факт у гэтым мудрагельстве, нажаль, толькі адзін, а гэта тое, што а. Бандарук адмовіўся ад пастырскага абавязку казаць праўду й ад журналісцкага - яе знаходзіць.

Усё гэта, пэўна-ж, ня так сабе, а з намерам даць довад, што "такая сытуацыя ў БАПЦ дыскрэдытуе саму ідэю аўтакефаліі", бо "кожны мае падставы сказаць, што перш чым прапагандаваць аўтакефалію ў Беларусі, сьпярша прымірыцеся паміж сабою там у Амэрыцы".

Хто гэны "кожны" а. Бандарук ня кажа, але пададзены ім аргумэнт - нічога больш як адгалосак маскоўскіх паклёпаў на нашую аўтакефалію.

Усьлед-жа йдзе нааскомлелая й даўгая казка М. Мацукевіча праз тое, што як ён не "працягвае руку да згоды, другі бок (?) яе адкідае".

Няма толькі ўспаміну, што гэны "другі бок" няраз працягваў М. Мацукевічу руку да згоды яшчэ ў пачатку ягонага бунту, больш як 20 год назад, ды, нажаль, надарма.

Гэтта, пэўна-ж, у слухача, ці чытача, зьяўляецца пытаньне, ці перш, як прапагандаваць "згоду", ня трэба было-б выясьніць прычыны "нязгоды".

Ці г.зв. "бакі" разыйшліся дзеля розьніцы думак, скажам, праз надвор'е, ці адным із іх былі зробленыя ўчынкі, што паводле царкоўных правілаў адлучаюць вінаватага за іх ад царквы?

Не зважаючы на намаганьне а. Бандарука прамоўчаць гэтае пытаньне, яго адкрывае далей сам М. Мацукевіч, кажучы "... усё тое, што было дагэтуль трэба пакінуць за сабою".

Што было дагэтуль М. Мацукевіч гэтым разам, як і гадамі раней, не адкрывае, бо выпраўдаць прычыну не "нязгоды", а ягонага безпадстаўнага бунту ды арганізацыі змовы супраць першагерарха, ягонае аб'яўленьне сябе "мітрапалітам" ды стварэньне собскае "кансысторыі", нават пры ягоным майстэрстве на слоўную хітрасьць, немагчыма.

Цяжэй яшчэ паставіць усю гэтую ягоную дзейнасьць за прыклад для вернікаў ды паказаць як вобраз нашае царквы й ейных архіпастыраў перад іншымі цэрквамі й сьветам.

Затое лёгка пусьціць людзям у вочы туман прапагандай міру на савецкі лад, гэта значыць зьвярнуўшы віну на няпрычастнага, пакінуць за захопнікам ягоныя заваёвы ды аб'явіць яго дабрадзеем.

За гэты трык і схапіўся цяпер М. Мацукевіч пакруцельску вінавацячы ў неасягненьні "згоды" на ягоны лад ... сп. Барыса Данілюка.

М. Мацукевіч, пэўна-ж, судзіць іншых па сабе, бо ня тайніца, што ў ягоным буньце ён быў паслухмянай прыладай спробаў імкненных да манаполю ўлады эміграцыйных колаў авалодаць БАПЦ.

Сумна, што гэткай самай прыладай сталі й некаторыя перадачы а. Бандарука.

Горш яшчэ падумаць, што гэтае ўладнае імкненьне варожыць для будучыні дэмакрацыі, калі-б гэтыя колы ўзялі верх на Бацькаўшчыне?! *Б. Шчарыч*

---

**ЧЭСЬЦІ ГОДНАГА Й ЗАСЛУЖАНАГА АЙЦА ПРАТАЯРЭЯ**

**МАКСІМА ТАЎПЕКУ**

**З 85-МІ ЎГОДКАМІ НАРАДЖЭНЬНЯ, 2-ГА ЛЮТАГА, ШЧЫРА ВІТАЮЦЬ І ЖАДАЮЦЬ ЯШЧЭ ШМАТ ГОД У ДОБРЫМ ЗДАРОЎІ СПРЫЧЫНЯЦЦА ДА ДАБРА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

**КАНСЫСТОРЫЯ БАПЦ, ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА Й СЯСТРЫЦТВА КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. ТУРАЎСКАГА, ВЫДАВЕЦТВА БАПЦ "ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ" ДЫ ПРЫЯЦЕЛІ Й ЗНАЁМЫЯ**

## ТОЕ ШТО ЛЮБІМ, САМЫЯ ГУБІМ

Кожны зь ведамых мне перакладаў Сьвятога Пісьма й багаслужбовых кнігаў на замежныя мовы можа быць узорам чысьціні гэтых моваў у іхнай урачыстай ды даўніною авеянай хворме.

Нажаль, усе выдадзеныя дагэтуль гэткія-ж тэксты на беларускай мове, замест быць узорамі моўнае чысьціні, найчасьцей могуць служыць адно прыкладамі адумысловае "трасянкі", якую я раней назваў "царквомаўкай" ( гл. Ц.П., № 2, 1998, б. 17).

Прычына на гэта - знаемства перакладнікаў з нашай мовай не з калыскі, а з кніжкі, ды недастатковая пазьнейшая праца над ейным вывучэньнем.

На бачынах "Ц.П." ўжо раней былі разгляданыя й збракаваныя пераклады Сьв. Літургіі М. Мацукевіча й а. Сяргея Гардуна.

Гэтым разам даводзіцца зрабіць пару заўвагаў на перакладніцкія думкі а. Аляксандра Надсона, якія ён выказаў на III-м Міжнародым Кангрэсе Беларусістаў (Кантакты і Дыялогі, № 11-12, 2000), таму, што яны кранаюць тэксты, якімі карыстаюцца праваслаўныя.

Першым чынам нельга пагадзіцца на ягоную прапанову перакладаць царкоўна-славянскае "*благословить*" словам "*блаславіць*", дзеля таго, што яно гучыць падзяцінаму ды ня мае ніякага сэнсу.

Да гэтага-ж "*благословить*" мае некалькі значаньняў, якія пабеларуску трэба перакладаць усім зразумелымі словамі "*хвалаваць*", "*прыяць*", "*шчадрыць*", "*спарыць*" "*дабрыць, дабраваць*".

У іншым мейсцы ягонага зьвесту а. Надсон займаецца гімнам "*Единородный Сыне*", што пяецца на пачатку літургіі настаўляных.

Пачынае ён ягоны пераклад гэтак: "*Адзінароды Сыне і Слова Бога*", дзе, мне здаецца, замест "*Адзінародны Сыне*" трэба было-б казаць "*Адзіны Народжаны Сыну*", бо маецца на думцы тое, што ў Выяве Веры выказваецца словамі "*ад Айца нарадзіўся ... ня створаны быў*", а "*родны*" таго ня выяўляе.

"*Слова Бога*" - запраўдны моўны монстр, на мейсца якога кожны хоць мала-веле знаёмы з нашай мовай паставіў-бы "*Божае Слова*".

Далей у а. Надсона чытаем "*Ты, Несьмяротны, дзеля нашага збаўленьня захацеў прыняць цела ад Сьвятое Багародзіцы і заўсёды Дзевы Марыі і, не зазнаўшы зьмены, стаўся чалавекам*".

Дакладней і больш зразумела, ды мілей для вуха гэты сказ, па мойму, перакладаецца гэтак: "*хоць Сам Несьмяротны, але дзеля нашага збаўленьня зволіў узяць цела ад Сьвятое Божае Маці й усьцяж Дзеўны Марыі ды, не зьмяніўшыся, стаў чалавекам*".

Канцавыя сказы а. Надсонавага перакладу гучаць: "*Ты быў укрыжаваны, Хрысьце Божа, сьмерцю зьнішчыўшы сьмерць. Будучы адным з Сьвятой Тройцы, роўным славаю Айцу і Сьвятому Духу, збаў нас*".

Чысьцей пабеларуску й больш зразумела іх можна было-б перакласьці гэтак: "*Хрысьце Божа, што на крыж быў прыбіты ды зьвярнуў сьмерцяю сьмерць, Ты, ураўні йз Айцом і Сьвятым Духам услаўляны адзін із Сьвятое Тройцы, збаў нас. (лепш яшчэ было-б: адзін із Сьвятога Тройства, збаў нас).*

З увагі на тое, што а. Надсон, пераклаў амаль поўны збор літургічных тэкстаў, якімі, зь нястачы іншых, магчыма будуць карыстацца й праваслаўныя, зробленыя тут заўвагі да прыкладаў ягонае працы няхай служаць напамінам, што веданьне моваў арыгіналаў не забясьпечвае якасьці мовы беларускага перакладу.

На гэта патрэбная праца на вывучэньне й свае мовы ды тое, што паангельску называецца "sensitivity of the native speaker".

*Барыс Данілюк*

---

**УДЗЕЛЬНІЦУ ЎЗНАЎНОГА САБОРУ БАПЦ 1948-ГА ГОДУ Ў КАНСТАНЦЫ Й НЯСТОМНУЮ ПРАЦАЎНІЦУ НА ЦАРКОЎНАЙ НІВЕ ПРАЦЯГАМ БОЛЬШ ЯК ПОЎСТАГОДЗЬДЗЯ**

**ВЫСАКА ПАВАЖАНУЮ СПАДАРЫНЮ**

**ГАННУ ВОЙТАНКА**

**ЙЗЬ 75-МІ ЎГОДКАМІ НАРАДЖЭНЬНЯ 22.2.2001 ВІТАЮЦЬ І ЖАДАЮЦЬ ЯШЧЭ ШМАТ ГОД У ДОБРЫМ ЗДАРОЎІ ПРАЦАВАЦЬ НА ДАБРО БАПЦ**

**КАНСЫСТОРЫЯ БАПЦ, ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА Й СЯСТРЫЦТВА КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА, ВЫДАВЕЦТВА БАПЦ "ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ" ДЫ ПРЫЯЦЕЛІ Й ЗНАЁМЫЯ**

---

## ЗАПУСКІ Ў БРУКЛІНЕ

У нядзелю, 25-га лютага г.г., пасьля Сьв. Адправаў Парахвіяльная Рада й Сястрыцтва Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага зладзілі ў парахвіяльнай залі пачастунак з нагоды запускаў перад Вялікім Постам.

Пачастунак даў магчымасьць адзначыць і блізкія да запускаў угодкі, ды важныя даты ў жыцьці духавенства й вернікаў парахвіі.

На першым мейсцы зь іх былі 75-я ўгодкі нараджэньня, 21.1.1926 г. і 20-я ўгодкі ўсьвячэньня ў япіскапа, 22.2.1981 г., Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, праз што было напісана ў папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца".

З гэтых нагодаў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў атрымаў пісьмовыя прывітаньні ад духавенства й парахвіяў БАПЦ, ЗБС "Бацькаўшчына" й іншых прыхільнікаў із замежжа ды амэрыканскіх прыяцеляў.

Апрача таго, 22.2.2001 г., асягнула 75 год жыцьця ўдзельніца ўзнаўнога Сабору БАПЦ у Канстанцы й нястомная працаўніца на агульнацаркоўнай й парахвіяльнай ніве сп-ня Ганна Войтанка.

У той самы-ж дзень атрымала амэрыканскае грамадзянства шанаваная ўсімі нашая таленавітая пяюньня сп-ня Ліда Кано.

Урэшце, тры дні пасьля запускаў збывалася 50 год, як ступіла на амэрыканскую зямлю сям'я шматгадовых царкоўных працаўнікоў сп. Барыса й Марыі Данілюкоў.

Пасьля слоўнага прывітаньня юбіляраў, прысутная грамада гучна прапяяла ім "Дай Божа шмат год!".

Далей, пры пачастунку й музыцы з кружэлак, ішлі гутаркі на надзённыя ў эміграцкім жыцьці тэмы.

Гэтым разам гэныя гутаркі былі цікавейшыя больш як калі, бо на ўрачыстасьці быў, заўсёды рада вітаны госьць, сп. Зянон Пазьняк, які дзяліўся з прысутнымі навінамі з Бацькаўшчыны ды выказваў ягоныя пагляды на стан беларускае вызвольнае справы.

---

**ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА", АДЗІНЫ ЧАСАПІС ПРЫСЬВЕЧАНЫ СПРАВЕ ЎЗНАЎЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ!**

## ПАЧУЙМА НАШУЮ ПАБОЖНУЮ ПЕСЬНЮ

Няма, мабыць, нікога, да чыйго сэрца й думкі не прамаўляла-б апранутае ў музыку краснае слова, ці, інакш кажучы, песьня.

Бо, ці-ж ёсьць пачуцьцё, ці падзея ў жыцьці, каб на яе ня было песьні, што, або цешыць у горы й бядзе, або весялуе з радаснае нагоды, ці, урэшт, духова ўмацоўвае на годныя й адважныя ўчынкі.

Пазнаўшы аднаго Бога, песьнямі, або псальмамі хвалавалі Яго даўнія ізраільцяне ды зьвярталіся да Яго па абарону й дапамогу.

З песьняў і псальмаў склаліся адправы Праваслаўнае Царквы, што захапляюць іхным хараством ды, набліжаючы вернікаў да Бога, пакідаюць ў іхных душах нязьнікны сьлед.

І наш Беларускі Народ ад даўна складаў кранальныя прыгажосьцяй песьні нятолькі праз ягонае жыцьцё, але й ўслаўляў, ды ўпрашаў Бога сьпяваючы на роднай мове.

Нажаль, запалонены чужой уладай і царквою, што імкнулі загубіць ягоную мову, наш народ пакрысе пачаў забываць свае пабожныя песьні.

Сёньня мала хто з нас можа згадаць хоць адну гэткую песьню, а тымчасам у хрысьціянскіх народаў, асабліва на захадзе, зь якімі сутыкаемся, гэткіх песьняў тысячы, ды выконваюць іх сотні салістаў ды гуртоў, а іхныя запісы разыходзяцца шматмільённымі тыражамі.

У нас-жа завялося нямала гуртоў, што, калі й сьпяваюць на роднай мове, дык робяць гэта на нязвычны нам чужы манер, ды няраз замест пабожных песьняў выкрыкваюць брыдкія словы.

А, ці-ж ня варта нам, што імкнемся да ўзнаўленьня нацыянальнае Праваслаўнае Царквы, падумаць і праз узнаўленьне нашых рэлігійных традыцыяў, сярод якіх пабожная песьня павінна быць у першай чарзе?!

Маючы гэта на мэце, Выдавецтва БАПЦ "Царкоўны Пасланец" зьвярнулася да найвыдатнейшых выканальнікаў беларускае песьні на эміграцыі, сям'і Казакоў, з прапановай пачаць гэтую справу й атрымала ахвочую згоду на найграньне касэты, ці дыску з нашымі каляднімі, вялікоднымі й іншымі пабожнымі песьнямі.

Зразумелая рэч, што на адной ахвоце гэтаму добраму намеру ня збыцца - патрэбная паважная сума грошай, якіх нашае выдавецтва ня мае.

Мы спадзяемся, аднак, што нашыя чытачы возьмуць да сэрца вагу й патрэбу ў нашым жыцьці роднае пабожнае песьні, ды нятолькі самыя падтрымаюць справу ейнага выданьня ў прафэсыйным запісе іхнымі шчодрымі ахвярамі, але заахвоцяць да гэтага й іншых.

Ахвяры на гэтую мэту, просім перасылаць на адрыс выдавецтва "Царкоўны Пасланец", чэкамі выпісанымі на "Church Messenger", з зацемкай "песьні", або "songs".

Выдавецтва БАПЦ "Царкоўны Пасланец"

**"ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА" МОЖНА ТАКСАМА ПРАЧЫТАЦЬ НА ІНТЭРНЭТАВАЙ БАЛОНЦЫ**
**www.belaoc.com**

**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-Й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ ЛІСТКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ, ЦІ ЗА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.**

**АДРЫС: 401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702**
**TEL.: (1 718) 875-0595, TEL./FAX: (1 732) 868-1589**

**У ВЫДАВЕЦТВЕ БАПЦ "ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ" МОЖНА КУПІЦЬ ЧЫРВОНА-БЕЛЫ БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГЭРБ "ПАГОНЮ", ШТО ВЫГЛЯДАЕ ЯК ПАКАЗАНА НІЖЭЙ:**



**ПАМЕР ГЭРБУ 16.5 X 20.0 ЦМ (6.5 X 8.0 ІН.)**
**ПАМЕР ПАПЕРЫ 21.5 X 28 ЦМ (8.5 X 11.0 ІН.)**
**ЦАНА 3 АМ. ДАЛ. ЗЬ ПЕРАСЫЛКАЙ 5 АМ. ДАЛ.**

**ВЫДАВЕЦТВА БАПЦ "ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ" НАДРУКАВАЛА Й ПРАДАЕ**

### БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР НА 2001 ГОД

**У КНІЖЦЫ НА 98 БАЧЫНАХ ЗЬМЕШЧАНЫЯ ПАТРЭБНЫЯ КОЖНАМУ ПРАВАСЛАЎНАМУ БЕЛАРУСУ КАЛЯНДАРНЫЯ ВЕСТКІ, ІМЁНЫ СЬВЯТЫХ І АРТЫКУЛ, ШТО ДАТЫЧЫЦЬ БЕЛАРУСКАЕ ЦАРКОЎНАЕ ГІСТОРЫІ.**

**ЦАНА: 4.00 АМ. Д. ЗЬ ПЕРАСЫЛКАЙ: 5.00 АМ.Д.**

---

**ВЫДАВЕЦТВА БАПЦ "ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ" ТАКСАМА НАДРУКАВАЛА КНІЖЫЦУ БАРЫСА ДАНІЛЮКА**

### ДУШЫНЫЯ ПАСЬПЕВЫ

**РЫФМАВАНЫЯ ПЕРАКАЗЫ ВЫБРАНЫХ ПСАЛЬМАЎ І ПАБОЖНЫХ ВЕРШАЎ.**
**48 БАЧЫНАЎ.**

**ЦАНА: 5.00 АМ. Д. ЗЬ ПЕРАСЫЛКАЙ: 6.00 АМ. Д.**
**АБОДВЫ ВЫДАНЬНІ ЗЬ ПЕРАСЫЛКАЙ 10.00 АМ. Д.**
**АБОДВЫ ВЫДАНЬНІ МОЖНА ЗАМОВІЦЬ У ВЫДАВЕЦТВЕ. ЗАМАЎЛЕНЬНІ СЛАЦЬ НА АДРЫС "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА".**
**ЧЭКІ, КАЛІ ЛАСКА, ПІСАЦЬ НА "CHURCH MESSENGER".**

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Хоць і бязь песьні, але няменш шчыра як даўней валачобнікі, вітаем Вас, Дарагія Чытачы й Дабрадзеі зь Сьвятым Вялікаднем, ды жадаем Вам пабожна й радасна сустрэць, ды годна ўшанаваць гэты ўрачысты дзень.

Нажаль, пажаданьні дайдуць да Вас пасьля сьвята, ды не зь нядбайлівасьці, ці ляноты, а таму, што рэдактар апынуўся ў самаходавай катастрофе, калі пачыналася праца над вялікодным нумарам часапісу.

Хоць, дзякуй Богу, абыйшлося без калецтва, але ўсёроўна давялося страціць шмат часу на лячэньне.

Перапрашаючы за гэтае спазьненьне, мы, аднак, наўзор валачобнікаў, просім Вас, як можаце шчодра, абдарыць наш часапіс, што, хоць ня зь песьняй, але з добрым родным словам наведвае Вас, калі ёсьць за што выправіць яго ў сьвет.

А выпраўляць яго да Вас за мяжою й да нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне, узбагаціўшы зьмест й памножыўшы лік бачынаў, трэба было-б часьцей.

Ды нятолькі часапіс, прысьвечаны ідэі аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы, патрэбен у цяперашнюю пару змаганьня за духовае выжываньне Беларускага Народу.

Неабходныя й кнігі, ды, нават, найграньні царкоўных сьпеваў і пабожных песьняў на роднай мове.

З увагі на гэтыя патрэбы, як мы ўжо пісалі, рэдакцыйная калегія часапісу пашырыла ейную дзейнасьць і стала рэдакцыяй, ці ўправай выдавецтва БАПЦ "Царкоўны Пасланец".

На гэтай выдавецкай ніве ўжо зробленыя першыя крокі, празь якія абвешчана ў нашым часапісе, ды якія, спадзяемся, у недалёкай будучыні памножыць.

Усё-ж, "Царкоўны Пасланец", як пашыральнік ідэі беларускае аўтакефаліі й лучнік зь ейнымі прыхільнікамі застанецца на першым і галоўным мейсцы ў нашай выдавецкай дзейнасьці.

Мы радыя, што гэтую ролю часапісу цэняць нашыя чытачы й выяўляюць гэтую ацэну іхнымі шчодрымі ахвярамі, як гэта паказана ніжэй:

Парахвія БАПЦ ў Кілкэны (Адэляйдзе) - 84.59 д., Ананімна - 100.00 д., В. Балашчанка - 20.00 д., М. Белямук - 5.00 д., Ул. Брэдзелеў - 50.00 д., Д. Бобка - 10.00 д., К. Варабей - 15.00 д., Г. Войтанка - 45.00 д., К. Ворт - 50.00 д., Р. Галяк - 50.00 д., М. Грэбень - 30.00 д., Б. Данілюк - 50.00 д., Р. Данілюк - 100.00 д., В. Зайка - 5.00 д., др. М. Жылік - 25.00 д., Мітр. Ізяслаў - 70.00 д., В. Казак - 10.00 д., Ю. Касьцюкевіч - 50.00 д., а. В. Кендыш - 50.00 д., др. Ю. Кіпель - 30.00 д., Я. Крэсла - 25.00 д., В. Лосік - 20.00 д., Ж. Навумчык - 10.00 д., М. Прускі - 5.00 д., В. Сацэвіч - 10.00 д., др. М. Смаршчок - 20.00 д., А. Тальянскі - 50.00 д., а. М. Таўпека - 25.00 д., а. д. І. Якунін - 100.00 д., О. Яськевіч - 50.00 д.

Мы горача дзякуем гэтым нашым Дабрадзеям за іхную ласку й будзем намагацца заслугоўваць на гэткую-ж ласку ад іх ды ад іншых у будучыні.

Рэдакцыя Выдавецтва БАПЦ
"Царкоўны Пасланец"